наша свабода

№56(143) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

1 ЧЭРВЕНЯ 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# Мінск сустрэў Пуціна выбухам гранаты

*У ноч з 30 на 31 траўня на тэрыторыі амбасады Расійскай Федэрацыі ў Мінску прагрымеў выбух.*

Упраўленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС Беларусі паведаміла, што на тэрыторы расійскага дыппрадстаўніцтва была ўзарваная граната РГД-5. Пацярпелых няма. Была нязначна разбураная агароджа тэрыторыі пасольства. Па дадзеным факце Цэнтральным РУУС Мінска ўзбуджаная крымінальная справа. Вядзецца следства. Там нам паведамілі, што ад выбуху засталася невялікая варонка на адлегласці 50 сантыметраў ад плота.

Паводле агенцтва БелаПАН, граната была кінутая на тэрыторыю пасольства з вуліцы Камуністычнай двума невядомымі, якія дагэтуль не затрыманыя. Характэрна, што адбылося гэта напярэдадні саміта СНД у Мінску з удзелам вышэйшага кіраўніцтва Расіі.

Па інфармацыі Інтэрфакса, МЗС Расіі «высняе і аналізуе сітуацыю» ў сувязі з паведамленнямі аб тэракце на тэрыторыі амбасады Расіі ў Мінску. Гэта падаміў першы намеснік міністра МЗС Расіі Аляксандр Аўдзееў. Амбасада пасля інцыдэнта «працягвае працаваць у планавым рэжыме» – гэта паведаміў супрацоўнік дыппрадстаўніцтва Расіі, які не назваўся, хаця звычайным назваць рэжым працы ў гэтыя дні немагчыма, бо на саміт СНГ прыбываюць прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін і прэм'ер-міністр Міхаіл Касьянаў. Па словах дыпламата, месца здарэння раніцай у чацвер агледзеў міністр замежных справаў Расіі Іваноў.

Старшыня прэс-службы КГБ Беларусі сп.Фёдар Котаў сказаў, што разглядаецца палітычная версія здарэння, і выказаў надзею, што вінаватыя ў хуткім часе будуць выяўленыя і прыцягнутыя да адказнасці.

Па інфармацыі нашай газеты, адбыліся два выбухі: гэта сцвярджаюць жыхары суседніх дамоў. Прычым выбухі прагрымелі з інтэрвалам прыблізна ў хвіліну.



Расійскае пасольства ў Мінску па вул. Камуністычнай

Выклікае здзіўленне месцазнаходжанне варонкі: 50 см ад плотф. З вуліцы так кінуць выбуховае рэчыва немагчыма: траекторыя палёту мусіць быць навеснай, а гэта значыць выканаўца мусіў знаходзіцца блізка да плота, які ўвесь час ахоўваецца міліцыяй і сродкамі тэленазірання і добра асветлены. Нават днём проста прайсці каля плота цяжка: гэта выклікае ўвагу аховы. Любы тэрарыст ці найміт павінен зважаць на такую небяспеку. Органы, якія займаюцца следствам, гэта пакуль не каментуюць.

Гэта другі напад на расійскую амбасаду. Першы адбыўся ў 1997 годзе, калі прадстаўніцтва Расіі было абстралянае з аўтамата. На наступны дзень былі жорстка збітыя і разагнаныя міліцыяй дэманстранты, якія кіраваліся ў яго бок, пратэстуючы супраць саюза Расіі і Беларусі. Відавочна, што тады абстрэл быў правакацыяй з мэтай апраўдаць жорсткія дзеянні ўладаў. На нашу думку, цяперашні інцыдэнт можа пераследаваць такія самыя мэты: па-першае неўзабаве выбарчая кампанія, падругое, адносіны з «саюзнікам» – Расіяй і яе прэзідэнтам перасталі быць ідылічнымі. Па нашай інфармацыі, Пуцін адмовіўся спачатку сустракацца з Лукашэнкам падчас цяперашняга саміту СНД, і толькі напружаная праца беларускага МЗС зняла гэтае пытанне. Але, як відаць, праблема засталася. Для беларускага рэжыму здарэнне дае магчымасць абвінаваціць палітычных апанентаў і паказаць сілу і незалежнасць даступным і зразумелым яму спосабам.

Першы раз «парадам суверэнітэту» было адключэнне расійскіх тэлеканалаў, цяпер выбухі. Почырк становіцца ўсё болей чытэльным. Слава лёзненскага самастрэлу не дае спакою.

**ДАВЕДКА**

## Ручная наступальная граната РГД-5



Ручная аскепкавая граната дыстанцыйнага дзеяння РГД-5 прызначаная для паражэння жывой сілы праціўніка пры наступе або абароне. Яна крыху лягчэйшая і больш зручная, чым РГ-42. РГД-5 складаецца з корпуса з трубкай для запалу, разрыўнога зарада і запалу УЗРГМ (УЗРГМ-2). Абцякальны корпус сабраны з верхняй і ніжняй частак, кожная з якіх уключае знешнюю абалонку і ўкладыш. Прыведзеная плошча рассейвання аскепкаў – 2.832 кв.м. Адтуліна для запалу пры захоўванні закрываецца пластыкавым коркам. Апроч УЗРГМ і УЗРГМ-2 у баявых умовах могуць прымяняцца старыя запалы УЗРГ, якія засталіся ў войсках, але яны забароненыя да ўжывання пры навучанні. Для нашэння ручных аскепкавых гранатаў выкарыстоўваецца брызентавая сумка на дзве гранаты з кішэняй для запалаў. Аднак у апошнія гады ў войсках у баявых умовах аддаюць перавагу нашэнню гранатаў у кішэнях камізэлек. Існуе вучэбна-імітацыйны варыянт УРГН. З замежных копіяў РГД-5 можна ўзгадаць кітайскую гранату Тып 59.

# Чужы саміт

*Учора ў Мінску пачаўся двухдзённы саміт краінаў-чальцоў Садружнасці незалежных дзяржаваў. На сустрэчу зляцеліся каля 1.000 найвышэйшых чыноўнікаў – калі лічыць разам з аховай і абслугай.*

Учарашні дзень быў прысвечаны паседжанням Саветаў міністраў замежных справаў краінаў СНД і Савета кіраўнікоў урадаў. Сёння мусіць прайсці сустрэча лідэраў дзяржаваў. На парадак дня выносяцца 10 пытанняў, галоўныя з якіх – стварэнне зоны свабоднага гандлю і барацьба з тэрарызмам.

### Хто ў хаце галоўны?

Напярэдадні саміта шматлікія аналітыкі адзначалі, што Расія пачала актыўна варушыцца, каб здабыць сабе рэпутацыю інтэграцыйнага лідэра ў рамках СНД. Расійскі прэзідэнт Уладзімір Пуцін цягне «коўдру» на сябе, як можа. Яму даводзіцца рэанімаваць мёртванароджаную Садружнасць, бо як яшчэ можна паставіць пад свой кантроль адразу 11 дзяржаваў?

Усяго тыдзень таму Уладзімір Пуцін прысутнічаў на сустрэчы краінаў-чальцоў Дамовы аб калектыўнай бяспецы ў Арменіі. Там Расія дамовілася з Арменіяй, Беларуссю, Казахстанам, Кыргызстанам і Таджыкістанам аб стварэнні сілаў хуткага рэагавання, якія будуць базавацца ў Бішкеку і выкарыстоўвацца для барацьбы з ісламскім экстрэмізмам і гандлем наркотыкамі ў Цэнтральнай Азіі. У пагадненні, падпісаным у Еравана, гаворыцца, што любы напад на аднаго з удзельнікаў пагаднення будзе разглядацца як напад на ўсіх ягоных чальцоў.

У 1999 годзе гэтая дамова развальвалася на вачах – Азербайджан, Грузія і Узбекістан выйшлі з яе, бо лічылі дамову бесперспектыўнай. Цяпер жа Расія даволі паспяхова спрабуе вярнуць яе да жыцця.

Учора Уладзімір Пуцін прысутнічаў на паседжанні яшчэ адной фармацыі ў рамках СНД – гэтак званай Еўразійскай эканамічнай супольнасці. Міждзяржаўнаму Савету ЕАЭС неабходна было абраць кіраўніка. Ім стаў прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў.

Як вядома, у склад ЕАЭС уваходзяць 5 краінаў – Беларусь, Расія, Казахстан, Кыргызстан і Таджыкістан. Дамова аб утварэнні ЕАЭС была падпісаная ў кастрычніку мінулага года ў Астане. Гэтая фармацыя нарадзілася на базе Мытнага саюза, у які ўваходзілі тыя самыя дзяржавы. Аднак 5 краінам было вельмі цяжка знайсці агульныя мытныя інтарэсы, таму Мытны саюз праіснаваў надоўга. Кіраўнікі ЕАЭС спадзяюцца, што цяпер ім будзе прасцей знаходзіць агульную мову. Асноўнае пытанне, якое абмяркоўвалася на паседжанні Міждзяржаўнага савета – далейшае паглыбленне эканамічнай інтэграцыі ў рамках Супольнасці.

На гэтым праграма сустрэчаў Уладзіміра Пуціна не заканчылася. Ён сустрэўся ў Мінску з прэзідэнтамі Арменіі і Азербайджана – Гейдарам Аліевым і Робертам Качаранам. Гэтыя дзве краіны ўжо больш за 12 гадоў ніяк не могуць дамовіцца аб лёсе спрэчнай тэрыторыі – Нагорнага Карабаха. Трэба разумець, Уладзімір Пуцін прэтэндуе на лаўры міратворца і пасрэдніка падчас гэтых перамоваў. Крыху пазней да Г.Аліева і Р.Качарана далучыўся прэзідэнт Грузіі Эдуард Шэварднадзэ, і з гэтай тройкай расійскі прэзідэнт правёў «прафілактычную размову» на тэму міжнароднага тэрарызму, больш за ўсё маючы на ўвазе дапамогу Азербайджана і Грузіі чачэнскаму боку.

Як бачым, праграма У.Пуціна ў Мінску – вельмі насычаная. Шчыра кажучы, для яе ажыццяўлення можна было саміт правесці і ў Маскве. Бо звычайна так і робіцца: каму трэба, той і плаціць. Але расіяне добра зэканомілі – яны «падаравалі» саміт Мінску.

### Доля гаспадара

Мінск калісьці гучна быў абвешчаны «сталіцай СНД». Але якое СНД – такая і сталіца. Усё радзей Мінску ўдаецца прыгадаць пра свой «сталічны» статус.

*Заканчэнне на стар.3*

## Горшыя ў СНД

Найменшы рост прамысловай вытворчасці ў 2001 годзе сярод дзяржаваў СНД зафіксаваны сёлета ў Беларусі. Такія звесткі распаўсюдзіў Статыстычны камітэт СНД. За першы квартал гэтага года рост прамысловай вытворчасці ў Беларусі склаў 2,2%. У Расіі гэты паказчык склаў 3,3%, у Казахстане – 11%, ва Украіне – 17%.

## Няма каму лячыць

Дэфіцыт кадраў ва ўстановах аховы здароўя ў сталіцы складае ад 22 да 40%. Укамплектаванасць урачамі складае 75%, сярэднім медыцынскім персаналам – 78%, малодшым – 60%. Адной з прычынаў такога становішча з'яўляецца невысокі ўзровень заработнай платы.

## Кветкі на чыгунку – толькі ў раздроб

Беларуская чыгунка ўвяла з 1 чэрвеня часовую забарону на гуртавае набыццё квіткоў на цягнікі паўднёвага кірунку. Такое рашэнне тут тлумачаць тым, што хочуць пазбегнуць стратаў, якія БЧ цярпіць ад пакупкі квіткоў гуртам турыстычнымі фірмамі. Вельмі часта нерэалізаваныя квіткі яны здаюць усяго за некалькі дзён да даты адпраўлення, і ў БЧ не паспяваюць іх прадаваць.

## Навала кватэрных крадзяжоў

У Віцебску кватэрныя крадзяжы ўчыняюцца прыкладна тры разы ў суткі. У 2001 годзе зафіксавана ўжо паўтысячы такіх выпадкаў. Гэта 30% ад усіх злачынстваў.

## Віно замест мяса

На Магілеўшчыне ў 7,5 разоў павялічыліся тэмпы вытворчасці пладова-ягадных вінаў. Разам з тым, паводле абласнога статыстычнага ўпраўлення, у вобласці зменшыліся аб'ёмы вытворчасці мяса і каўбасаў.

## Перашкода гуманітарным грузам

Нядаўна Гомель наведала дэлегацыя ўрада аўстрыйскай зямлі Форальберг. Яна прывезла з сабой 10 аварыйна-ратавальных аўтамабіляў, аўтамабіль хуткай дапамогі і рэанімацыйную машыну. У прыгарад Гомеля Касцюкоўку – камп'ютэры і медыкаменты. У дэлегацыі кажуць, што аўстрыйскай гуманітарнай дапамогі ў Беларусь прыходзіла б болей, калі б не бюракратызм чыноўнікаў.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1385**

# Звычайны з'езд

## З'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі, што адбыўся на гэтым тыдні, нумараваўся XIII. Непрыемная сімволіка сябе апраўдвала

Творчая пісьменніцкая арганізацыя апынулася ў калі не ў пэўнай ступені крызісным, дык, прынамсі, аморфным стане. Прыкладам, пасля ад'езду Уладзіміра Някляева ў Польшчу фактычна без старшыні. Менавіта занадта працяглае існаванне без галавы называлася афіцыйнай нагодай для склікання з'езда. Не ўсё гладка ў СПБ і з аўтарытэтам у грамадстве, і з дабрабытам, і з унутраным супрацьстаяннем некалькіх груповак. Нездарма напярэдадні багата гаварылася нават пра мажлівы раскол СПБ з ініцыятывы пісьменніцкай лукашэнкаўска-прарасійскай лявіцай. «Русафілы» з падтрымкай уладаў маглі б паспрабаваць прыбраць да сябе перш за ўсё матэрыяльнае даброцце Саюза пісьменнікаў. Нарэшце, з'езд праводзіўся за колькі месяцаў да прэзідэнцкіх выбараў, і не мог застацца па-за палітыкай.


Фота Ул.ШЛАПАКА

Вольга Іпатова і Ніл Гілевіч


Уладзімір Някляеў і Сяргей Законнікаў

Напярэдадні з'езда ўлады розным чынам – і ў адкрытую, і падспудна – даводзілі да пісьменніцкіх колаў, што ім не варта ўмешвацца ў грамадска-палітычную сітуацыю ў краіне. Нават своеасаблівае папярэджанне-метафару выносілі: была агучана ідэяператварыць і без таго не прыналежны Саюзу пісьменнікаў Дом літаратара ў Дом творчасці, агульны для ўсіх беларускіх творчых саюзаў. Маўляў, вы зараз хоць не ўласнікі, дык хоць нібыта гаспадары, глядзіце – і гэтага не будзе! Ад пісьменнікаў вымагаюць, прынамсі, нейтралітэту. Памятаецца сустрэча ў жніўні 1998 года прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі з сябрамі Рады Саюза пісьменнікаў, на працягу якой той неаднойчы фармуляваў прынцып узаемадачыненняў дзяржавы і пісьменнікаў, аб'яднаных у фінансаваны з дзяржбюджэту Саюз, прыкладна так: «поддержка со стороны государства, власти и Президента вам будет обеспечена на принципах взаимности» ці «будете поддерживать государство, государство никогда вас не оттолкнет и всегда поддержит».

І Саюз пісьменнікаў вырашыў, прынамсі, дэманстраваць нейтралітэт. Вынікі прамінулага з'езда можна ацаніць так, што СПБ выбраў варыянт закансервавання сітуацыі і ўнутры, і вакол Саюза. Нехта вытрактуе гэта як канфармізм (вынік таго, што бальшыня ў Саюзе ўяўляе з сябе гэтак званае «балота»), іншыя як пісьменную і адзіна правільную пазіцыю дзеля захавання арганізацыі да таго часу, калі настане спрыяльная пара структурнага і іміджавага рэфармавання.

Выбары новага кіраўніцтва СПБ гэтаксама трэба разглядаць у гэтым рэчышчы. Наогул на пасаду старшыні Саюза пісьменнікаў літаратурны цэх (у Доме літаратара гэтым днём прысутнічалі крыху меней за 400 чалавек з 505 сябраў Саюза) вылучыў досыць багата сваіх калегаў. Але Генадзь Бураўкін, Сяргей Законнікаў, Анатоль Бутэвіч і іншыя прадказальна ўзялі самаадвод, сцёбнаэкзатычную і загадзя непрахадную кандыдатуру Анатоля Сыса з'езд нават не зацвердзіў у якасці вылучэнца. У выніку ў бюлетэнях на галасаванне засталося два прозвішчы – Міколы Мятліцкага і выконваючай абавязкі старшыні СПБ Вольгі Іпатавай. Перамагла, апошняя (набрала 195 галасоў супраць 146 за Мятліцкага). Хоць да з'езда Іпатава і заяўляла, што не мае аніякага жадання ачольваць Саюз пісьменнікаў у дадзенай сітуацыі. Аднак, відаць, В.Іпатава спадзяецца, што з цяперашнімі ўладамі Саюз пісьменнікаў можа рабіць кампрамісы і кантактаваць у годнай паставе. Хоць досвед ейнага папярэдніка паказвае, што наўрад ці. Выступаючы на з'ездзе, Уладзімір Някляеў, як пра зубны боль, згадваў пра свае спробы дамаўляцца з рэжымам Лукашэнкі, маўляў, марная справа: «дамовяцца і падмануць», бо гэта «ўлада татальнай маны».

Што да палітыкі, то на з'ездзе яна наяўнічала не больш як для аздобы і прыстойнасці. Каб не звярэдзіць сумленне і пры гэтым не ўгнявіць улады, што б магло ўскладніць стасаванне з імі ў будучым. Усё памяркоўна і па завядзёнцы. Было абсалютна прадказальна, што Саюз пісьменнікаў прыме зусім не жорсткую заяву кшталту «з'езд беларускіх пісьменнікаў выказвае заклапочанасць тым, што ў працэсе стварэння агульнай Саюзнай дзяржавы ёсць рэальная небяспека страты суверэнітэта і незалежнасці Айчыны», ці рэзалюцыю пра заклапочанасць «з нагоды зніжэння ўжывання беларускай мовы ў розных сферах жыцця ў Беларусі, асабліва ў творчай і навуковай». Ды з іншымі агульнымі месцамі. Не, гэта ўсё збольшага з болем, шчыра, правільна і праўда, але выйшла заезджана і безрэзанансна.

Іншая, больш рэзкая палітычная заява, прадстаўленая цяпер ужо колішнім старшынём Саюза пісьменінкаў У.Някляевым, нават не патрапіла на галасаванне. У.Някляеў прапанаваў такі варыянт заявы: «13-ы з'езд беларускіх пісьменнікаў канстатуе катастрафічны стан беларускай мовы і літаратуры, выкліканы палітыкай улады адносна ўсяго нацыянальнага ў нашай дзяржаве. Зыходзячы з гэтага, напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў з'езд Саюза беларускіх пісьменнікаў, першае, выказваецца ў падтрымку ўсіх дэмакратычных сілаў і кандыдатаў у прэзідэнты ад дэмакратычнай апазіцыі. Другое, лічыць, што А.Лукашэнка, які парушыў Канстытуцыю і незаконна ўтрымлівае ўладу ў Беларусі з ліпеня 1999 года, не мае маральнага права на вылучэнне ў якасці кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь». Такая заява амаль не мела шанцаў прайсці пры цяперашніх настроях у Саюзе пісьменнікаў. Дарэчы. Напярэдадні з'езда Рада СПБ прыняла рашэнне аб недапушчэнні выступаў на сцэне Дома літаратара палітыкаў. Сапраўды, ім няма чаго рабіць на творчых прафесійных форумах, бо мэта тут у іх толькі адна і спрэс прагматычная – палітычная раскрутка. Аднак жа прывітальны зварот А.Лукашэнкі да Саюза пісьменнікаў, зачытаны міністрам культуры Леанідам Гулякам, літаратарам, хай з крывой усмешкай ці фігай у кішэні, а выслухаць давялося. І вітальнае слова Палаты таксама.

Што да ацэнкі дзейнасці за апошнія гады Саюза пісьменнікаў як творчай арганізацыі, то яна была дадзена ў дакладзе Вольгі Іпатавай. Паводле ейных словаў, перад Саюзам стаіць проста процьма праблемаў і задачаў. Гэта поўная выплата ўсіх запазычанасцяў за пісьменніцкі Дом адпачынку «Іслач», правядзенне там рамонтных работ і па мажлівасці адваеў ва ўласнасць СПБ будынка Дома літаратара. Апрача таго, В.Іпатава казала пра тое, што Літфонд недастаткова дапамагае пісьменнікам у іхніх жыццёвых патрэбах. Прызнала яна і факт «раздраю» ў Саюзе. А вось на крытыку арганізацыі з боку некаторых літаратараў В.Іпатава адрэагавала досыць неадэкватна. Яна ўсёр'ёз разважала пра неабходнасць увядзення ў Статут арганізацыі пункта аб недапушчэнні такіх выслоўяў, калі пісьменнікі «бэсцяць уласную арганізацыю». Але самае большае, пра што можна гаварыць тут, – гэта пытанне, палягаючае ў маральнай плоскасці. В.Іпатава прамаўляла таксама пра доўгія чэргі ў выдавецтвах, пра мізэрную колькасць, усяго 20%, у краіне беларускіх школаў, пра тое, што фактычна не працуе па профілі рэдакцыя літаратурна-драматычных перадачаў беларускага тэлебачання, якая раней выдавала да 200 гадзінаў эфіру на год, і пра багата што іншае. Але хоць неяк уплываць на сітуацыю тут Саюз пісьменнікаў можа толькі якраз пры актыўнай грамадска-палітычнай пазіцыі.

Пакуль што, як прызналася сама старшыня Саюза пісьменнікаў, арганізацыя выглядае «караблём з ушчэнт парванымі ветразямі». Гэта значыць, дрэйфуе: на ім бачаць вольную і багатую зямлю, а даплыць не могуць. А зямля гэтая – Беларусь. І карабель гэты не адзін, на астатніх – мы ўсе.

***P.S.*** *Па сканчэнні з'езда ў наваколлі Дома літаратара, у парку Горкага, куды пайшла прабавіць час купка пісьменнікаў, адбыўся дужа непрыемны інцыдэнт. Яны сядзелі за столікам і абмяркоўвалі за куфлямі піва падзеі на з'ездзе. Беларуская мова прыцягнула ўвагу міліцыянтаў, якія і прычапіліся з праверкай дакументаў. Пісьменнікі абурана запратэставалі, што нічога не парушаюць. Гэта і стала нагодай, каб міліцыянты павялі іх у пастарунак. Падчас затрымання яны лаяліся і абражалі беларускую мову. Такім чынам, улады нават у дзень пісьменніцкага з'езда не здолелі ўстрымацца хамскага стаўлення да нацыянальнай інтэлігенцыі і мовы.*

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

ІНТЭГРАТАР

## Першы з'езд усходнеславянскіх народаў

Актыўныя намаганні наноў «уз'яднаць» Украіну з Расіяй у тым самым фармаце, як гэта было ў дакастрычніцкія часы і як гэта адбываецца зараз з Беларуссю, нараджаюць дзіўныя мерапрыемствы. Прыкладам, учора ў Маскве адкрыўся першы з'езд славянскіх народаў Беларусі, Расіі і Украіны. Дзіўная тут ужо фармулёўка. Раней збіраліся прадстаўнікі беларускага, украінскага, рускага народаў. Лінгвістычная перамена надта паказальная, бо адлюстроўвае жаданне пэўных імперскіх колаў стварыць «славянскі саюз». У Беларусі дзейнічае ў якасці прарасійскай пятай калоны Беларускі славянскі камітэт, які ўзначальвае актыўны славянін Сяргей Касцян, вядомы найбольш тым, што пры адкрыцці сесіі палаты прадстаўнікоў раздаваў дэпутатам у якасці падарунка антысеміцкае выданне «Вайна па законах подласці».

На арганізаваны першы з'езд славянаў трох краінаў з Мінска выправіліся 80 чалавек. Сярод іх члены ўрада, болей за два дзесяткі народных абраннікаў з Нацыянальнага сходу, кіраўнікі МАЗа, БелАЗа, «Гарызонта», БелОМА, а таксама некалькі дзеячаў навукі і культуры. Зразумела, што ўсе чыстай крыві славяне, хоць і не рабілі даказальных аналізаў. Галоўным вынікам гэтага сходу, як мяркуюць дасведчаныя людзі, будзе зварот да кіраўнікоў Беларусі, Расіі і Украіны з просьбай паскорыць працэс інтэграцыі трох краінаў дзеля дзяржаўнага аб'яднання трох славянскіх народаў «на падставе высокай маральнасці, духоўнасці і патрыятызму». Інакш кажучы, зноў у СССР толькі пад назвай Расійская Федэрацыя. З гэтай мэтай Расія дэлегавала 500 славянаў, Украіна – 220, а сціплая Беларусь, як вышэй пазначана, якая згодная на ролю малодшага і слабейшага брата, — 80. Гэтыя невядома кім дэлегаваныя славяне створаць міжнародны грамадскі рух « Славянская салідарнасць у імя міру і прагрэсу».

Невыпадкова першы з'езд усходніх славянаў прымеркаваны да саміта кіраўнікоў дзяржаваў СНД у Мінску. Магчыма, каб паказаць ім перспектывы. На блізкую будучыню.

**Алесь КАЗЛЮКЕВІЧ**

## Самаадукацыю бяруць пад кантроль

З 1 чэрвеня ператворыцца ў чынную выдадзеная два месяцы таму пастанова Савета міністраў «Аб дзейнасці па аказанні дапамогі грамадзянам у самастойнай адукацыі». Гэты дакумент прадугледжвае, што цяпер такая дзейнасць «у формах народнага універсітэта, школы, лекторыя, нацыянальна-культурнага (іншага) цэнтра і курсаў ажыццяўляецца юрыдычнымі асобамі на падставе спецыяльных дазволаў (ліцэнзіяў), якія выдаюцца аблвыканкамамі і Мінскім гарвыканкамам.

З пераліку формаў дапамогі ў самаадукацыі відаць, што тут маецца палітычная і ідэалагічная падкладкі. Справа ў тым, што праз гэтую ўрадавую пастанову пацерпяць, напрыклад, Народны універсітэт, Беларускі Калегіум, Таварыства беларускай мовы, арганізацыі, якія багата займаюцца справай саматужнай адукацыі грамадзянаў. У ТБМ гэта курсы беларускай мовы, у Народнага універсітэта – так званыя вольныя класы па паліталогіі, гісторыі, эканоміцы і іншых навуках. Такім чынам у краіне самаадукаваліся ўжо некалькі тысячаў чалавек.

Уладам гэта дужа не падабаецца. І да ўвядзення ліцэнзавання на аказанне дапамогі людзям у самастойнай адукацыі яны, асабліва апошнім часам, намагаліся замінуць дзейнасці таго ж Народнага універсітэта. Кажуць, што разабрацца з ім запатрабаваў асабіста Аляксандр Лукашэнка. З міністэрства адукацыі да кіраўнікоў абласных упраўленняў адукацыі за подпісам намесніка міністра Алега Слукі былі спушчаныя так званыя рэкамендацыйныя лісты, дзе даводзілася пра тое, што не трэба даваць для правядзення заняткаў Народнага універсітэта аўдыторыяў ва ўстановах адукацыі і што нельга дапускаць у іх удзелу настаўнікаў.

На некаторых каардынатараў праграмаў Народнага універсітэта ў рэгіёнах абрынуліся рэпрэсіі. У прыватнасці, на кіраўніка аршанскай філіі універсітэта, дырэктара адной са школаў Станіслава Храпавіцкага. З Мінска ад мясцовых уладаў у Оршы запатрабавалі яго звальнення з дырэктарскай пасады. Аднак аршанскія наменклатуршчыкі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў не дужа старанна і ўсляпую выконваюць распараджэнні зверху. Як распавялі ў кіраўніцтве Народнага універсітэта, да сталіцы было дакладзена, што Храпавіцкі звольнены, хоць насамрэч аршанская «вертыкаль» з ім паразумелася, і ён быў проста пераведзены з адной дырэктарскай пасады на другую.

Як жа збіраецца існаваць Народны універсітэт ва ўмовах, што дыктуе пастанова Савета міністраў «Аб дзейнасці па аказанні дапамогі грамадзянам у самастойнай адукацыі». Дарэчы, ва універсітэце жартуюць, што калі так пойдзе далей, то ў хуткім часе трэба будзе мець ліцэнзію на паход у бібліятэку ці на тое, каб набываць газету ў шапіку. Выканаўчы дырэктар гэтай грамадскай ініцыятывы Аляксей Хадыка расказаў, што будзе зроблена спроба дамагчыся ўсё ж такі ліцэнзіі. Калі ж яе не дадуць, то давядзецца абыходзіць пастанову: звароты ў Мінгарвыканкам, а потым у аблвыканкамы па дазвол спрыяць народнай самаадукацыі будуць рабіцца не менш абсурдна, чымсьці сябе паводзіць улада.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

МЕМАРЫЯЛ

## Караткавечны музей

У Оршы зачынены музей Уладзіміра Караткевіча. А адкрыўся ён усяго паўгода таму – летась да 26 лістапада, дня нараджэння пісьменніка, калі яму споўнілася б 70 гадоў. Музей пачаў дзейнічаць у будынку колішняй радзільні, дзе калісьці нарадзіўся адзін з самых вядомых і чытэльных беларускіх пісьменнікаў. Тады на радзіму Караткевіча было прывезена багата рэчаў з архіва пісьменніка.

Але надта нядоўга прастаяла гэтая экспазіцыя. Яе згортванне тлумачыцца тым, што ўсё тады ў музеі Караткевіча да ягонага юбілею было зроблена неапраўдана паспешліва, а таму проста абы-як. Хацелі як лепей, а атрымалася як заўсёды. У прыватнасці, у будынку музея задужа вільготна. У выніку экспазіцыю эвакуавалі, бо музейныя рэчы падпалі пад пагрозу сапсавацца.

Нанова экспазіцыя адкрыецца толькі ў пачатку наступнага года, калі ў будынку музея Караткевіча будуць праведзеныя адмысловыя рамонтныя работы па выпраўленні тэмпературна-вільготнаснага рэжыму.

**Алесь ВАЎКОВІЧ**

СПОРТ

## Якія спраўдзяцца надзеі?

*Адразу тры нацыянальныя мужчынскія зборныя Беларусі па гульнявых відах спорту правядуць у выхадныя дні адказныя афіцыйныя матчы.*

Папярэдні месяц быў вельмі няўдалым для нашых хакеістаў, жаночых камандаў па ручным мячы, валейболе... Гандбалісткі ўпершыню за апошнія гады не здолелі трапіць у топ-турнір, на чэмпіянат свету, уступіўшы па суме дзвюх сустрэчаў галандкам.

Няўдача каманды Леаніда Гуско ярка высвятліла агульную праблему для ўсіх, яна, нібы камок снегу спачатку, потым ператварылася ў вялізарную лавіну. Хто б мог падумаць, што сярод шматлікай колькасці спартсменак, якія займаюцца ў краіне гандболам, знойдзецца толькі сямёра, якія больш ці менш падыходзяць па ўзроўні свайго майстэрства да зборнай. Ды і то, на пляцоўку ў Гомелі выходзілі чатыры з іх.

Атрымліваецца, што чэмпіянаты Беларусі па хакеі, ручным мячы, баскетболе, хакеі страцілі сваё галоўнае прызначэнне — выяўляць і расціць мацнейшых у краіне. Адбываецца зусім іншая карціна, калі скрозь за нас гуляюць так званыя легіянеры, а мясцовых зусім не бачна. Паглядзім, напрыклад, спіс з 21 футбаліста, якіх запрасіў у зборную Эдуард Малафееў. І таксама знойдзем толькі чатырох беларусаў — Шанталосава, Валадзенкова, Мілеўскага ды Васілюка. Хто выйдзе з іх на поле супраць армянаў і нарвежцаў – ніхто не ведае. Лепшыя справы ў мужчын-гандбалістаў, але і тут большая частка — легіянеры. І сённяшні настаўнік, алімпійскі чэмпіён Аляксандр Каршакевіч, паверце, спадзявацца будзе перш за ўсё на іх.

Цікава, як выглядае зараз мужчынская зборная па баскетболе, якой кіруе Аляксандр Барысаў? Зноў тое ж ліха — з 14 толькі пяцёра гуляюць за беларускія клубы. Колькасць іх планавалася быць меней, але, як вызначылася, некаторыя з «прыхаджанаў» па розных прычынах пад'ехаць не могуць. Ці не хочуць? Згуляць, падкрэсліваю, за родную нацыянальную зборную. У якой краіне яшчэ можа такое здарыцца?

Зразумела, што ўвогуле клас гульні беларускіх майстроў, што выступаюць за мяжой, бывае вышэй за тых, хто застаўся дома. А дзе ж ім тут «нагульваць» тую добрую спартыўную форму, калі беларускі спорт на месцах сышоў на нуль. Калі адсутнічае мэтанакіраваная дзяржаўная падтрымка, не хапае трэнераў, мізэрны заробак. І лепшыя калектывы, каб атрымаць нейкую гульнявую практыку, мусяць прымаць удзел у рознага роду «паўночна-ўсходне-паўднёвым» ці то турніры, ці проста звычайным трэнінгу і павінны выязджаць за «трыдзевяць зямель» на гэтыя самыя трэніроўкі. Вышэйшае спартыўнае кіраўніцтва зусім прызабыла адзіную аксіёму — «моцныя клубы – моцная зборная». У спорт зараз асабліва не ідуць. Не прэстыжна. Тыя ж грошы можна зарабіць амаль без намаганняў за хвіліну-другую, займаючыся, напрыклад, мыццём машыны на скрыжаванні дарог, на светлафоры. Нізкі паклон таму, хто не кінуў яшчэ ў цяжкую хвіліну беларускі спорт. Асабліва дзякуй трэнерам. Тым, хто застаўся! Як ні сумна, адзін вядомы міні-анекдот зараз, пэўна, расказваюць так: былі ў бацькі тры сыны. Міліцыянт, банкір і спартсмен.

Дык навошта тады марнаваць нашыя з вамі грошы, з высокай трыбуны распяваць пра дабрабыт фізічнай культуры і спорту. Усё гэта лухта. А потым мы разводзім у бакі рукі. Ах, не выйшлі ў паўфінал, фінал. Як дзеці, не можам нацешыцца нейкім восьмым месцам тых жа «сапраўдных мужчынаў» Анатоля Варывончыка, кожны з якіх атрымаў бы адзін грошай болей, чым траціцца на год адразу на тры федэрацыі — канькабежную, шорт-трэка і фігурнага катання.

Можа я памылюся, але і ўзровень гульні легіянераў не занадта ўжо і высокі, калі ў кожным відзе спорту, дзе яны дапамагаюць розным зборным, мы з кожным днём здаем свае пазіцыі.

Хацелася б памыліцца і ўбачыць якасную гульню ў выхадныя нашых зборных па футболе, гандболе і баскетболе. Іх выдатныя перамогі. Вельмі яна патрэбная футбалістам. Нагадаю, у пятай адборачнай групе зараз лідзіруюць палякі — 13 ачкоў пасля 5 матчаў. На тры ачкі адстаюць ад іх беларусы і на два – украінцы. Практычна пераможца адбору, які адразу трапіць на Кубак свету, і каманда, якая зойме другое месца і захавае шанц на ганаровую паездку ў Карэю ды Японію, выйдуць з гэтай тройкі. Як бачым, шанцы ёсць.

Паядынак з гандбалістамі Ісландыі, які пройдзе ў нядзелю ва Уруччы – першы з двух да шляху на еўрапейскі чэмпіянат-2002. Праз тыдзень сапернікі памяняюцца ролямі гаспадароў. Таму дома патрэбная перамога і як мага з адчувальным адрывам у галах.

Баскетбалісты ў Гомелі згуляюць стартавы кваліфікацыйны матч супраць азербайджанцаў. Тут выйгрыш амаль гарантаваны, клас беларусаў значна вышэйшы. Наперадзе іх чакаюць больш моцныя экзаменатары — грэкі і балгары. Але толькі дзве зборныя з чатырох выйдуць у наступны этап. Калі ўсё разлажыцца па палачках — падставаў для параз няма нідзе. Але на сэрцы неяк неспакойна. Ці сапраўды настали «чорныя» дні і зможа паўтарыцца травень?

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**



Трохразовы ўладальнік Кубка Беларусі па футболе, адзін з лідэраў сёлетняга чэмпіянату — «Белшына» з Бабруйска — дэлегавала ў зборную краіны свайго варатара Валерыя Шанталосава. Толькі аднаго...

# Беларусь глазами чистокровного шовиниста

## *Наперсточные правила интеграционной идеологии*

*За день до саммита в Минске российская «Независимая газета» опубликовала большую статью Константина Затулина, директора* ***Института стран СНГ****, озаглавленную «Союзное государство на постсоветском пространстве» с показательным установочным подзаголовком* «Без полного объединения с Россией демократизация в «отдельно взятой» Белоруссии невозможна». *Материал выражает выношенные мысли официального ученого, поскольку «написан на основе доклада автора на международной конференции «*Беларусь между Востоком и Западом: президентские выборы-2001 и перспективы демократии»*, которая прошла в Осло 10-11 мая этого года.*



Працэс русіфікацыі перад аб'яднаннем у «саюзную дзяржаву»

Любой белорусский читатель, знакомый с родной историей хотя бы по школьному учебнику, содрогнется от смеси умышленного вранья, откровенного цинизма и рефлексивного презрения к Беларуси, которые сконцентрированы в статье московского «специалиста». К.Затулин априорно не желает знать белорусскую историю, для него Беларусь – виртуальная административная единица, нелепый казус новейшего времени.

Он пишет: «*Исторически так сложилось, что современное белорусское государство возникло внезапно,* ***вопреки воле и желанию его собственного народа. Не было многовековой борьбы за независимость, не существовало понятия государственности и тяги к национальному обособлению***». Сказать, что у беларусов не было многовековой борьбы за независимость – это то же самое, что нагло плюнуть на могилы миллионов людей, поколения которых боролись за свою независимость. Плюнуть на память о двух миллионах белорусов, которые погибли в 1654—1667 годах в войне с русскими захватчиками? А как назвать два столетия военного противостояния крестоносцам? А десятки тысяч повстанцев, сосланных в Сибирь в 19 столетии? Или не из-за тяги к обособлению были расстреляны сотни тысяч белорусов в годы сталинского террора? Зачем же было врать в Осло?

Так же лихо «специалист по союзному государству» расправился с самостоятельным существованием Беларуси в недавнее время: «*Был и всплеск национализма, но он был кратковременным и достаточно поверхностным. Пик его пришелся на 1991 г., когда бывшая БССР получила свое новое название — Республика Беларусь, а государственными символами нового государственного образования стали герб «Погоня» и бело-красно-белый флаг. Все эти нововведения,* ***а главное — придание статуса государственного белорусскому языку****, вызвали довольно резкую реакцию в белорусском обществе, которое отторгало новые принципы государственного устройства*».

Придание статуса государственности языку более всего и оказалось ненавистно русским великодержавным шовинистам, и против этого была мобилизована вся российская пятая колонна. Ясное дело, что белорусский язык в качестве государственного сильно мешал бы произносить вслух и печатать в газете следующую белиберду: «***белорусские граждане вполне укладываются в современное понимание новейшей российской диаспоры*** *со всеми вытекающими из этого последствиями, включая прежде всего осознание своей этнической идентичности с жителями России*». Не каждый черносотенец осмелится оскорбительно называть русской диаспорой соседний народ. Но так проще для оккупационной идеологии, поскольку автор подкрепляет эмоции фантастической статистикой. В Беларуси – 1,5 миллиона человек с чистой «***русской кровью***» и еще 3,5 миллиона смешанных браков с русскими мужчинами или женщинами. То есть, как бы состоялась бесповоротная ассимиляция «*новейшей российской диаспорой*».

Чтобы окончательно избавиться от противной русскому державному сердцу белорусской государственности К.Затулин обратил взор на территориальные пространства. На его ученый взгляд, «*современная Белоруссия не может рассматриваться как изначальное этногосударственное образование, имеющее глубокие исторические корни, поскольку* ***ее территория — произвольно определенная в какой-то период существования СССР административная единица****, ограниченная административными (на деле —* ***виртуальными****) границами территория*». Директор института мог открыть хотя бы Советскую энциклопедию и проверить по карте, какую территорию имела Беларусь до вступления в СССР в 1922 году, не говоря уже об этнических границах. Невежество часто бывает сродни хамству или его выражением. Тем более, если для обоснования «отсутствия» поставлена политическая задача.

«*Для России Белоруссия,* — не скрывает российский специалист, — *представляет интерес с точки зрения геополитики, в том числе и как страна, способная* ***оказать помощь в обеспечении неприкосновенности западных границ Союзного государства и самой России****. Кроме того, Белоруссия была и остается* ***западными «воротами» России в Европу***».

Определившись с «воротами», автор переходит к злободневным вопросам. Самое же злободневное – скорость интеграции. В соответствии с требованиями научного подхода К.Затулин выделяет несколько этапов интеграции. «*Начальный этап,* — пишет он, — *иногда называют периодом «кебичевской интеграции». Очень важно обратить внимание на этот этап, поскольку иной раз в России и почти всегда на Западе теперь процесс объединения России и Белоруссии пытаются представить как результат одной только личной инициативы Александра Лукашенко*».

Кебичевская интеграция началась потому, что «*Кебич понимал, что без политической и финансовой поддержки российского руководства ему президентские выборы (а он готовился стать первым президентом РБ) не выиграть*».

**В чем же видятся К.Затулину достоинства лукашенковских этапов интеграции? В первую очередь это вновь филологические проблемы. «*Референдум 14 мая 1995 г. дал толчок к правовому закреплению за русским языком равного статуса с государственным белорусским языком.*** *Приравнивание русского языка к белорусскому является самым значимым достижением интеграционного порядка за все семь лет президентства Александра Лукашенко*».

А вот в вопросах власти достижения не случилось. Потому что «*руководство Белоруссии совсем не проявляло склонности* ***к передаче части своих властных полномочий российской высшей правящей элите*** *без необходимых гарантий с ее стороны*». В свою очередь «*российское руководство демонстрировало отсутствие способности гарантировать Лукашенко и белорусской партии власти приемлемый статус Белоруссии и устраивающее ее элиту положение в будущем общем государстве*».

Таким образом, интеграция растянулась, и «*дальнейшая судьба проекта объединения России и Белоруссии тесно связана с внутриполитическим процессом в Республике Беларусь. Самым заметным событием здесь в 2001 г. станут выборы президента республики*».

Как высший чин в Институте стран СНГ К.Затулин, естественно, обсуждает текущую политику в наиболее влиятельных кругах и, надо думать, выражает не только личное мнение, говоря, что «*российский подход к перспективам выборов в Минске будет неизбежно основан на реальностях современной Белоруссии —* ***Белоруссии Александра Лукашенко****. Безусловно, мы в России не всегда разделяем отдельные шаги президента Белоруссии, все формы и методы его работы. Однако это тот вопрос, влиять на который мы не считаем в полной мере возможным, по крайней мере, до полного объединения России и Белоруссии*».

Финал статьи звучит или как угроза, или как пророчество: «***Без полного объединения с Россией не состоится никакой демократизации в «отдельно взятой» Белоруссии***». Кавычки, которыми помечены слова «*отдельно взятой*», подчеркивают саркастический взгляд ответственного политолога на такую возможность. То есть, если не будет «*полного объединения*», то «все формы и методы работы» Лукашенко не подпадут под «*влияние*». А в случае «полного объединения» мгновенно растают в воздухе «*виртуальные границы*».

Вот перед такой альтернативой находятся на российский взгляд «***западные ворота***» в день открытия саммита руководителей стран СНГ в Минске.

**Ева АДАМОВИЧ**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1716 Нумар падпісаны ў друк 31/05/2001 (15:00) Наклад — 9.350